УДК 882.6-1
ББК 84 (4 Беи) 6
П 30

**Петрушкевіч А.**

П 30 Пярсцёнак: Вершы. — Ліда, Лідск. друк. 1997. — 64 с.

ISBN 985-6437-04-0

Зборнік вершаў Алы Петрушкевіч "Пярсцёнак" — кніга лірыкі кахання, пошуку гармоніі, духоўнай еднасці на фоне і ў суладдзі з прыродай, з Гародняй, з Радзімай, вяснова-асеннія настроі паэткі перадаюцца дасканала, далікатна, ціха і шчыра. Зборнік "Пярсцёнак" — гэта лірыка кветкавай пяшчоты, чыстай красы, створана ў стылі рэтра — на дваіх, гэтым яна і цікавая для ўсіх.

**БЕК 84 (4 Беи) 6**

ISBN 985-6437-04-0



***Віктару — з удзячнасцю***

Пакаціўся пярсцёнак—
 маё жыццё —
праз зіму і вясну
да гарачага лета.
Ды чамусьці заўсёды
вяртаецца ў восень...

## Шлюбны пярсцёнак

*Ала Петрушкевіч і дзявочае прозвішча мела такое ж прыгожае, як і па мужу, — Ала Барэйка. Вытокі яе паэзіі ад Адама Міцкевіча і Янкі Брыля. Яна падрастала недалёка ад Свіцязі. З вершамі ішла яна ў свет, але спачатку абараніла дысертацыю, выдала зборнік эсэ "Іду па слядах"... Пабудавала яна такі сціплы ланцужок імёнаў — Адэля, Алаіза, Марылька, маці Паэта, Ларыса... Нанізваецца на той ланцужок сціплай залацінкай і Ала. Самае вартаснае, што яна бярэ ад усіх, памянёных вышэй, — шчырасць суму ў яе душэўным стане. Яе "Пярсцёнак" коціцца ад восені ў вясну праз кветкавыя сумёты. Ала стварае вершы, як укладае снапочкі з кветак. Яна бярэ ад прыроды яе дасканаласць, красу. Яна рэабілітуе ўсе кветкі, якія ёсць у прыродзе, усю іх жаўцізну і едкасць, пасмакавала іх гаркату і даравала... Яна прыняла іх і стала да іх падобнай. Муза яе купаецца ў кветкавай пяшчоце, п'е кветкавы водар, кахае кветкавага мужчыну і не крыўдуе на ружавыя калючкі. ГЭты ўяўны свет паэткі вельмі рэальны і моцна грунтуецца на зямных сцежках каля Нёмана, на вулках Гародні, на буднім спрадвечным жыцці.*

*Ала ў сваёй кветкавай паэзіі, як і ў літаратурных эсэ, не трымаецца ніякіх традыцый, плыняў, арыгінальнасцяў, у яе адно на ўме — выказаць як найдакладней тое, аб чым душа яе тужыць і просіць, чаго вочы яе прагнуць, прайсці ў цесным свеце словаў каля другіх, нікога не зачапіць, не параніць, — такое далікатнае ў яе паміжрадкоўе. З усіх нягодаў яна выходзіць і вяртаецца да сваёй жар-кветкі. Яе пярсцёнак, заўсёды святочна-новы, надзеў ёй на пальчык закаханы мужчына, які ідзе з белай ружай па свеце да яе, і ведае, колькі ружа каштуе...*

Данута Бічэль-Загнетава

# МОЙ ГОД ПАЧЫНАЕЦЦА З ВОСЕНІ

## ДЫЯЛОГ З ВОСЕННЮ

— Восень, чым мне адплаціла?
Толькі горкаю рабінай,
толькі шумам ветру злога,
што ў галінах заблудзіўся,
мне за вернасць, за адданасць
да цябе, мая сяброўка?
— Што ж чакала ты, жанчына,
ад мяне? Даю, што маю.
Ты адчуй сябе шчаслівай
і ў халоднай адзіноце,
і ў рабіны горкім смаку
асалоду паспытай.
Вось тады ты станеш вернай,
мне надзейнаю сяброўкай.
— Але тая — буду я?

* * *

Жанчына і свет,
ненадзейны, варожы.
Ці зможаш сябе не згубіць?
Вясна — прамільгнула.
І лета — мінула.
Надзея — на восень.
Ад восені чуе:
— Жанчына, навошта прыйшла
у свет,
дзе святло не пануе?

* * *

Горкаю праўдаю гронка рабіны
між апусцелых галінаў.
Мне твая ласка, каханы, данінай,
што ты прыносіць павінен.
Мне б адвярнуцца, мне б з'ехаць далёка,
свет гэты мёрзлы пакінуць.
Толькі...
Гарэць мне тады адзінокай
гронкай прагорклай рабіны.

* * *

Усё такое марнае,
такое змізарнелае,
у свеце нашым сённяшнім
ні снегу, ні святла.

Я б'юся ў гэтай восеньскай,
адліжнай, слізкай цемені,
сама сабе прыдумваю
цябе, каханы мой.

А снег не йдзе,
падманвае.
І неба неахайнае
збавення не дае.

* * *

Снегу, снегу,
як ачышчэння,
як збавення ад бруду,
ад восені
просяць вулкі цесныя,
вострыя
вежы дахаў.
І я прашу:
— Снегу, снегу,
мяці, мяцеліца,
замяці ўсе дарогі
ў мой дом.
Хай не будзе сюды ўваходу,
раз сюды не прыходзіш ты.

* * *

Я ўся — чаканне.
Я — на ўзмежку.
Ды ў свет твой, восень,
не хачу.
Ты зразумееў маю усмешку?
Мой мілы!
Дорага плачу
табе за шчасце быць жаданай:
усмешкаю — заслонай, зданню
з уяўнага асенняга цяпла.
І колькі буду на зямлі —
чаканнем.
Я ўся — каханне...

* * *

І ў восені цябе шукаю,
маё каханне.
Ад смутку, адзіноты, ад адчаю
бы ў вір, імкну ў святло тваё,
у веліч залатога адцвітання.
І ведаю, што восень —
то змяркание...

## ТРЫПЦІХ ПРА КАХАННЕ І ВОСЕНЬ

1

Прыгожы, высокі, значны
свет дзіўны майго бяссоння
з халодных восеньскіх начаў,
з часоў самай злой адзіноты
марнее,
сыходзіць,
знікае,
як мара мая пра каханне.
І вобраз такі банальны
паслужліва памяць стварае:
як згустак гарачай крыві,
што цела жывое кідае,
становіцца чорнаю плямай,
імкнецца ў палон да формы,
знямелай, застылай, страшнай
у правільнасці квадратнай.
І траціцца сэнс былога,
а новае—тая ж цемра,
што б'ецца аб чорныя сцены.
І нават рукі твае,
і нават вусны твае
не могуць вырваць
з адвечнага злога палону,
і я растваряюся ў ім.

2

Ніколі не будзе вяртання
ў шалёнае пекла цемры,
і ў цьмяныя вокны ночы
ніколі не глянеш ты
праз вочы мае на шыбах,
замглёных цяплом дыхання.
Я ўдзячна табе, каханы,
за тое, што ты не прыйдзеш.
У восеньскім шэрым змроку
не згіне маё пачуццё,
бо веру: не мог ты здрадзіць
свайму невядомаму сонцу,
далёкай і роднай планеце,
дзе некалі з'явішся ты.
Шкада, што не будзе вяртання...

3

Няхай мне засталіся толькі вершы.
Няхай мяне страчае толькі восень.
Ты быў.
Мне дастаткова ў тое верыць...
Ты быў?
А можа, гэта мне здалося?
Напэўна, гэта толькі водгук слова,
што я сама прыдумала.
Пра шчасце.
Хацела ведаць,
што ж гэта такое?
Уведала.
Спазнала.
Не ўтрымала.
Тваё каханне ты забраў з сабою.
Маё каханне восень не забрала.

**ЛЮДЗІ ЯК ДРЭВЫ**

І мы як дрэвы:
блізка і далёка.
У вочы твае, мілы, загляну.
Зноў сіл не хопіць,
ведаю, не хопіць
аддаць табе надзеі цеплыню.
І рукі, як галінкі, трэпле вецер,
мае надзеі зноў знішчае, топіць.
Вачыма гладзіш мае косы-вецце
з балючага асенняга агню.
Зноў сіл не хопіць,
ведаю, не хопіць
закрэсліць паміж намі цішыню.

## КОЛЬКІ МНЕ ГАДОЎ?

Мне ўжо столькі,
што перастала
вёсны, зімы свае лічыць,
навучылася годы-нягоды
я каханнем тваім лячыць.
На дні доўгія — раны-маршчыны –
сыпні ўсмешак сваіх цяпло,
і загояцца раны тыя.
Лёгка, хораша.
Усё сышло.

# ДАРОЖНЫЯ ВЕРШЫ ПРА ЗІМУ, ЯКОЙ НЕ БЫЛО, І КАХАННЕ, ЯКІМ ЖЫВУ

* * *

Белаю, чыстаю, светлаю марай
ты застаешся, зіма.
Неба цяжкой, ненавіднаю хмарай
знішчыць імкнецца дарма
воблік твой светлы і гожы.
Я ў час свайго падарожжа
зноў застаюся адна.
Недзе далёка, у мроях, —
зіма...

* * *

Я ў дарозе ізноў,
да цябе — ад цябе.
За вакном — свет і снег
мітусяцца, лятуць.
На душы — цяжкі след
ад жадання вярнуць...
Ад няшчырых, халодных імкненняў вярнуцца –
і тваіх,
і зімы.

* * *

Зноў зімы не было.
Снег ішоў, не ішоў,
раставаў і знікаў,
як усмешкі цяпло.
Быў зімовым настрой,
і халодным — твой смех,
толькі чыстай і светлай зімы
не было.

* * *

Напачатку вакно пасінела,
а пасля раптам хлынула цемра,
каб схаваць гэты дзень, гэты снег.
Холадна, пэўна, было і няўтульна
ў гэтым раннім зімовым змярканні
тым, хто не ехаў
насустрач каханню.

* * *

Еду. З дарогаю звязаны
мы непарыўнаю повяззю.
Ці аддаляюся, ці набліжаюся, —
штораз з аднолькавай бояззю:
што мне рыхтуе сустрэча з табою?
Што нам нясе расставанне?
Еду. Навечна з дарогаю звязана.
Еду... Заўсёды насустрач каханню.

**ВЕРШЫ ПЕРШАГА СНЕГУ**
ТРЫПЦІХ

1
Мы ў парку, дзе дрэвы — у мроях, у сне.
Сюжэт наш банальны, не новы, спрадвечны,
такі ж ненадзейны і недоўгавечны,
як самы першы ў гэтым годзе снег.

І словы светлыя, і лёгкі смех.
Нішто нас засмуціць з табой няздатна.
І рукі тваёй дотык такі ж далікатны,
як самы першы ў гэтым годзе снег.

Кахаць — высока, хораша — ці ж грэх?
Скажы, святая, вечная Каложа.
Няхай між намі будзе ўсё прыгожа,
як самы першы ў гэтым годзе снег.

2
Віншую цябе з першым снегам.
У нашай прамоклай Гародні,
дзе восень бясконца пануе,
ён падае, як суцяшэнне,
з'яўляецца светлым імгненнем,
чаруе,
хвалюе.
Віншую!..

3
Першы снег.
Пад нагамі ён стане
бруднай, брыдкай вадой.
А што стане са мной?
А з каханнем?..

# ІДУ
# ПА СЛЯДАХ
# ВЯСНЫ

* * *

Вясну ніяк не знаходжу,
згубілася недзе ў трох соснах.
Штодня
іду па яе слядах.
І сама заблудзілася
ў снах,
у мроях,
у нашых з табою сустрэчах.
Пакажы мне, мой свеце,
дарогу,
навучы мяне,
дзе знайсці
тую светлую, добрую панну,
што прыносіць цяпло і каханне,
выйсці з кола зачараванага,
шчодрым лёсам наканаванага.
Ты даруй мне, вясна,
я стамілася,
не знайшла я цябе,
заблудзілася.

* * *

Нас з табой разлучыла вясна,
што калісьці ўварвалася смела
ў нашы лёсы,
спявала, звінела
і крышыла паводкай да дна
ўсё ў душы маёй,
кволай, нясмелай,
не ад шчасця вясной захмялелай.
Закружыла мяне яна
ў вір жаданняў,
што клічуць і просяць...
Нас з табой разлучыла вясна,
нас з табой пазнаёміла восень.

* * *

З вясною — на розных сцежках.
З табою — на сцежцы адной
сустрэліся,
каб разысціся,
раздзеленыя мяжой
былога і небылога,
таго, што і быць не магло,
таго, што і быць не павінна,
прыспешанае вясной.
А ўсё ж,
ці адна ў нас дарога,
сышліся ж на сцежцы адной?..

**НА ВУЛІЦЫ АЖЭШКІ ЦВІТУЦЬ КАШТАНЫ**

ДЫСТЫХ

1

Нібы кветкі каштанаў,
белай хваляй плывуць твае словы,
ападаюць на вочы і вусны
далікатнай, празрыстаю явай.
Нешта светлае і чаканае
заварожвае, ап'яняе.
То не словы твае.
То проста —
белай хваляй плывуць каштаны.

2

Над Гародняй плыве пяшчота
з самых светлых, ласкавых слоў.
Знітаваныя з рук і вуснаў,
мы, адроджаныя наноў.

Недзе ўнізе цвітуць каштаны
ў непаўторным маі маім.
Я бязважкай слязінкай стану,
каб упасці пад ногі ім.

Растварыцца б і знікнуць, як свечкі,
што ў каштанах пылаюць журбой.
Ты даруй мне, даруй, вольны вецер,
што няволяю стала тваёй.

## МУЖЧЫНА З КВЕТКАМІ

1

Болей за ўсё мне падабаюцца мужчыны
не прыгожыя,
не высокія,
не дужыя
і нават не добрыя,
а — з кветкамі.

Ён ужо прыгожы:
закаханыя не бываюць непрыгожымі.
Ён ужо высокі:
каханне высока ўздымае яго.
Ён ужо дужы:
здольны пераадолець усё.
Ён ужо добры:
вас пакрыўдзіў калі-небудзь
мужчына з кветкамі?

І няхай нават ён
ніколі не заўважае мяне, жанчыну,
я прабачаю, я разумею:
я — не ягоная жанчына,
і кветкі ягоныя — не для мяне.

Але я шчаслівая шчасцем ягонай каханай,
бо маю надзею:
і да мяне прыйдзе аднойчы
мой адзіны мужчына
з кветкамі...

2

Некалі марыла,
што ў мой дом
прыйдзе мужчына з кветкамі...
Прыйдзе адзіны каханы мужчына
з чыстаю белаю ружаю,
ці з не зусім белаю,
як першы снег,
а з лёгкай жаўцізной расстання.

Але ён, мой адзіны каханы,
не ведаў,
што жанчыне неабходны кветкі,
як паветра, як сон,
не ведаў,
што кветкавую пяшчоту
належыць аддаваць адной-адзінай
жанчыне.

Затое ён добра ведаў,
колькі каштуюць кветкі,
і не ведаў,
колькі каштуе шчасце.

Ён быў бедным
і бедным застаўся.
Я ж маю тое, пра што марыла:
у маім пакоі ў крышталёвай вазе
стаіць цудоўная белая ружа
з пяшчотнай жаўцізной расстання.
Яе прынёс для мяне мужчына,
які прайшоў праз здраду
і застаўся верным.

Ён варты таго,
каб я прыняла ягоную белую ружу.

* * *

Не, гэта не ты,
а мой горад каханы
сустрэў мяне дзікай,
шалёнай пяшчотай:
мне вочы засыпаў калючым пяском,
мне вусны пагладзіў шурпатай далонню,
прывеціў халодным, бязладным дажджом
і ветрам са злосцю шпурнуў валасы.
Чаму так, мой горад?
Застыла ад гора.
Не, перш ад здзіўлення:
у чым вінавата
прад светам і гэтай
чаканай
хвілінай спаткання?
Што ж ты, мой каханы,
сустрэў мяне гэтак?..

# СЯРОД ЛЕТА — АДНА

* * *

Адплыло...
Не, не лета ў чаўне,
не, не фарбаў яго красаванне.
Адплыло
тваёй светлай усмешкі цяпло
і гарачых сустрэчаў чаканне.

Адплыло,
каб ніколі назад не вярнуцца,
як штогоду вяртаецца лета ў чаўне
да кагосьці.
Ды не да мяне.

* * *

Не любіць лета адзінокіх,
не верыць слёзам і адчаю.
Таму яго я не вітаю:
не любіць лета адзінокіх.
Глыбока ў сэрцы боль схаваю
тваіх вачэй, такіх далёкіх...
Не любіць лета адзінокіх,
не верыць слёзам і адчаю.

* * *

Што мне лета,
калі я забылася,
як узыходзіць сонца,
каб асвяціць вокны нашага дому
і нас, шчаслівых, побач?

Што мне лета,
калі ў маім свеце —
ні цябе,
ні нашага шчасця,
ні нашага дому.
Што мне лета,
калі я — адна?..

* * *

Асыпаюць півоні пялёсткі.
Колькі часу ў тае прыгажосці?
Напамінам, што ўсе мы тут госці,
асыпаюць півоні пялёсткі.

Я яшчэ ўсё чакаю кагосьці,
хто быў добрым, а стаў такім жорсткім...
Асыпаюць півоні пялёсткі.
Колькі часу ў тае прыгажосці?

**ПРАЗ ВЕРШЫ — ДА ЦЯБЕ**
ТРЫПЦІХ

1
Сваё жыццё складаю з тваіх слоў,
іх, нібы пацеркі, перабіраю,
змяняю, паўтараю, нанізваю ізноў
на тонкі ланцужок маіх надзеяў.
І ўсё шукаю сярод іх адно,
такое зразумелае — "кахаю".
Я пачакаю, мілы, пачакаю.

2

Мне не бачыць цябе — пакута.
Мне сустрэчы з табой — пакута.
Ад цябе я ўцякаю ў вершы
і хаваю у іх адчай,
і хаваю у іх каханне
і пакуту — не бачыць цябе.
І пакуту — сустрэчы з табой.

3

Ад вачэй тваіх, добрых, разумных,
захінаюся словамі,
што нічога не азначаюць, —
пустымі, бяздумнымі.
Ад адзіноты засланяюся вершамі,
што складаюцца з тых жа слоў.
Спадзяюся, праз іх зразумееш,
што "ты" ў вершах маіх —
гэта ты...

* * *

Словы кідаем. Ты — мне, я — табе,
так недарэчныя, як тыя справы,
што нас злучаюць, зводзяць, трымаюць
у нейкім пустым, безвыходным палоне.
Справы, не вартыя нас і таго,
што мы старанна ў сэрцах хаваем,
ты — ад сябе, я — ад сябе.
Кроку ніколі не зробім насустрач
ты —да мяне, я —да цябе.
Толькі нікчэмныя словы між намі.

* * *

Мне знаёмаю здаўна мелодыяй
пачынае гучаць гэты голас,
так падобны на твой.
Ён валодае
нейкай звабліваай, дзіўнаю сілай,
што ў мяне забірае спакой,
пазбаўляе выратавальнай,
мудрай правільнасці-развагі.
Я губляюся, раствараюся.
І знікаю.
Ды зноў вяртаюся
ў гэты цёмны, разбэшчаны свет,
дзе мяне сустракае твой голас.

* * *

Як хараша — проста сустрэцца
на вуліцы.
Сярод мноства вачэй,
сярод мноства прахожых
цябе яшчэ не пазнаць,
а ўжо адчуць,
што гэта — ты
і што светлая ўсмешка на твары тваім
для мяне.
І проста прайсці,
захаваўшы ў сэрцы
тваёй усмешкі святло.

* * *

Мяне не хвалюе,
што я не ведаю,
дзе ты жывеш,
з кім ты жывеш,
як ты жывеш...

Мяне хвалюе,
што я не ведаю,
якім бывае дотык тваіх рук.
Заўсёды ўнікаю
дакрануцца да іх выпадкова,
быццам праз гэта мы яшчэ здольны
перадаваць тое,
што надзейна схавана.

Не, болей за ўсё баюся,
што твае рукі застануцца
звычайнымі,
халоднымі і абыякавымі,
і вочы нічога не скажуць.

Я не ўпэўнена нават,
ці ведаю цябе.

## ДА КАЛОЖЫ

Я так годна ішла паўз жыццё,
паўз людзей з іх штодзённым стараннем.
Ды спыніцца прыйшла пара:
я прайшла пауз цябе, пауз каханне.

Аглянулася: сцішаны раны
і залатаны дбайна рубцы.
Да Каложы прыйшла пакланіцца,
памаліцца на схіле бяды...

І Цябе, і мяне — палавіна...

І Цябе не ўратавалі
каляровыя крыжы.
Ты упала на калені,
на мяжы
Твайго знікнення
працягнуў Анёл руку.
У раку,
шалёны Нёман,
у вірлівае прадонне,
град каменняў мёртвых рухнуў...

І Цябе, і мяне — палавіна...
А другую панесла вірам
брудна-шэрая плынь вады.
Але ў сэрцы тваім застанёмся
мы з Каложаю цэлым адным?..

## ДЫЯЛОГ

*Пасля наведвання выставы*
*берасцейскай мастачкі*
*Анастасіі Фецісавай*

Размаўляю са светам
мовай фарбаў і ліній,
далікатных і тонкіх,
як дзівосная мроя,
як празрыстая ява,
што праз дождж пранікае,
светлы "Дождж над кляштарам..."
Не знаходжу на свеце
я праз безліч сустрэчаў
тых, хто здольны развеяць
недавер, боль, тугу.
І табе, мая зорка,
дзе прытулак сустрэну,
шлю цяпло свайго сэрца,
шлю пяшчоту сваю.

## Я НЕ ПАМЕРЛА

***Ніне***

Гэта праўда, мяне ўжо няма
на тых сцежках, дзе я хадзіла.
Тыя сцежкі — мая турма.
Я сышла.
Я ўцякла.
Я рашыла:

адракаюся ад усяго,
што з зямлёю мяне зрадняла,
ад няшчасця-кахання твайго,
ад гарачай тваёй пяшчоты.

Нехта скажа, мо нават з жалем,
што памерла ад адзіноты.

* * *

Заручылася з гэтай зямлёю.
Добрай сястрою
мне стала рабіна.

Шчасце вясновае разам сустрэнем
у белых уборах,
чысцюткіх, як мары.

Восенню разам гаркоту раздзелім,
болем крывавым
нальемся — стрываем.

Свіцязь матулінай ласкай атуліць,
у яе ўлонні
вымыю душу,
зноў нараджуся
для свету пяшчоты.

Сілай, якая ад болю затуліць,
стаў ён, адзіны.
З ім заручыла нас Неба
для шчасця.

## НА ЧОРНЫМ МОРЫ

### *Сняжане*

Чужыя птушкі —
імклівыя і прагныя —
крычаць і хапаюць здабычу —
чайкі.
Чужая, халодная, салёная,
бясконцая вада —
мора.
Белае, малое, неспакойнае
над шэрым, што завецца чорным.
Чакаем чужога цяпла,
што свеціць, пячэ і — не грэе.
Час, мая доню,
вяртацца дадому.



## З М Е С Т

ІДУ ПА СЛЯДАХ ВЯСНЫ



СЯРОД ЛЕТА — АДНА



Літаратурна-мастацкае выданне

**Ала Петрушкевіч**

**ПЯРСЦЁНАК**

Рэдактар *Д. Бічэль-Загнетава*
Карэктар *И. Ч уракова*
Адказны за выпуск *К. Валчкевіч*
Ліцэнзія Л В № 15 ад 15.07.93. Здадзена ў набор 5.11.97.
Падпісана да друку 4.02.98. Фармат 60x84'/32.
Гарнітура арыял. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 1.86. Тыраж 3000 экз. Заказ 2618.
Лідская друкарня, 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23